




# ІСКРЫ ІЛЬІЧА №11

N 11, 1936

*СУЛЕЙМАН СТАЛЬСКІ*

# ІСПАНСКІМ ГЕРОЯМ

Смялей на бой! Мы ўсе за вас,
Іспанскія героі!
Апошняй бітвы блізкі час,
Іспанскія героі!

Увесь, увесь працоўны свет
Вам шле братэрскі свой прывет,
Іспанскія героі!

Таварышы, ваш верны шлях,
Вышэй трымайце волі сцяг,
Іспанскія героі!

Нясуць фашысты-груганы
Вам смерць, няволі кайданы,
Іспанскія героі!

Смялей-жа прэч ганіце іх,
Фашысцкіх псоў знішчайце ўсіх,
Іспанскія героі!

У вас магутнасць моцных рук,
Адважных сэрцаў мерны стук,
Іспанскія героі!

Працоўны з вамі ўвесь народ.
На бой! Няма вам перашкод,
Іспанскія героі!

Ўвесь свет пра вас складае сказ,
Бадзёрыць дапамогай вас,
Іспанскія героі!



# ПАМЯЦІ СЯРГЕЯ МІРОНАВІЧА КІРАВА

Два гады таму назад (1 снежня 1934 года) куля ворага абарвала жыццё аднаго з самых лепшых людзей нашай радзімы, друга і саратніка вялікага Сталіна—Сяргея Міронавіча Кірава.

Бандыцкая шайка трацкістаў і зіноўеўцаў рыхтавала забойствы і другіх правадыроў партыі і совецкага народа. Ворагі рэвалюцыі мецілі свае здрадніцкія стрэлы ў сэрца таварыша Сталіна. Яны хацелі адабраць у нас нашых правадыроў і ўстанавіць сваю фашысцкую ўладу.

Але гэта ім не ўдалося: главары бандыцкай шайкі былі знішчаны

Уся краіна паклялася ля магілы Сяргея Міронавіча прадаўжаць яго справу, бязлітасна знішчаць усіх ворагаў.

Сяргей Міронавіч усёю душою любіў совецкі народ, любіў дзяцей, нястомна працаваў на карысць вялікай справы Леніна-Сталіна. Светлы вобраз дарагога Сяргея Міронавіча вечна будзе жыць у нашай памяці, у нашых сэрцах.



*Таварыш СТАЛІН робіць даклад З'езду.*

# МЫ СЛУХАЛІ ДАКЛАД ВЯЛІКАГА СТАЛІНА

25 лістапада быў надзвычайны дзень у жыцці народаў Совецкага Саюза. У гэты дзень лепшыя людзі краіны з'ехаліся ў чырвонай сталіцы—Маскве на свой Надзвычайны VIII З'езд Советаў. На З'ездзе з прамовай аб новай Канстытуцыі*) СССР выступіў правадыр народаў вялікі Сталін. Радыёстанцыі Масквы перадалі прамову таварыша Сталіна на ўвесь Саюз і на ўвесь свет. Мільёны людзей нашай краіны з радасным пачуццём слухалі простае і магутнае жывое слова свайго любімага і дарагога бацькі і правадыра.

З'езд аднадушна ўхваліў вялікую сталінскую Канстытуцыю, у якой запісаны перамогі социялізма ў СССР.

Ніжэй мы друкуем водгукі і ўражанні рэбят аб праслуханым імі па радыё дакладзе вялікага Сталіна.

## Я ВЕЛЬМІ ЛЮБЛЮ НАШУ РАДЗІМУ І ТАВАРЫША СТАЛІНА

Калі я прышла са школы, дома было прыбрана пасвяточнаму. Мама была апранута ў святочнае плацце. Усе мы селі каля рэпрадуктара і слухалі даклад любімага Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Я ўвесь час не адыходзіла ад рэпрадуктара, і калі ўсе заспявалі Інтэрнацыянал у залі Крэмлёўскага палаца, я таксама заспявала.

Ад усяго сэрца дзякую нашага любімага правадыра таварыша Сталіна, які так клапоціцца аб нас, дзецях. Я вельмі люблю нашу радзіму і таварыша Сталіна.

Я абяцаю Надзвычайнаму VIII З'езду Советаў закончыць увесь навучальны год па ўсіх прадметах на „выдатна".

**М. Сярэбранік**

**Менск, 17 школа, 2 клас**

*) Канстытуцыя—асноўны закон.



*Старшыня калгаса „Данскі скакун“ (Азова-Чарнаморскага краю) т. Хромушкін вітае З'езд ад імя данскага казацтва.*

## КАЛІ ПРАБІЛА ПЯЦЬ ГАДЗІН

Прышла я са школы ў дзве гадзіны дня. Тата сказаў мне, што будуць перадаваць па радыё прамову тав. Сталіна. Я падрыхтавала ўрокі і чакала, калі будзе пяць гадзін вечара. Калі прабіла пяць гадзін, я вельмі зарадавалася, што вось зараз будзе гаварыць таварыш Сталін.

Доўга былі апладысменты. Потым выбралі прэзідыум З'езда, а потым далі слова таварышу Сталіну. Я вельмі была рада, што слухаю яго прамову, чую, як ён сам гаворыць, нібы ён тут, у нашым пакоі. Тата таксама слухаў са мною вельмі ўважліва. Я асталася вельмі задаволена гэтым вечарам. Калі прыду ў школу, абавязкова раскажу ўсім сваім таварышам, як я слухала прамову таварыша Сталіна.

**Масква, 155 школа, 4 клас. Маня Фёдарава**

## Я КРЫЧАЛА „УРА“

25 лістапада час ішоў марудна. Так марудна, нібы гэта быў не дзень, а цэлы тыдзень. Мне ніяк не сядзелася на месцы. Але час ад гэтага хутчэй не ішоў. Настаўніца сказала:

— Якая ты, Рая, непаседа—ні хвіліны спакойна не пасядзіш.

Нарэшце настала пяць гадзін. Я ўжо была дома. Мама адклала сваю работу. Бацька падсеў бліжэй да радыё. Я села каля самага прыёмніка.

І вось таварыш Сталін стаў гаварыць. У мяне так моцна забілася сэрца, што першых слоў я амаль не пачула. Але потым я супакоілася.

Таварыш Сталін гаварыў аб новай Канстытуцыі, аб новым і радасным жыцці, аб законах шчаслівай працы і адпачынку.

Але вось даклад скончыўся. Радыё загудзела, пачуліся крыкі захаплення. І я не ведаю, як гэта здарылася, але я ўскочыла на стул і закрычала, ды так звонка, што сама не пазнала свайго голасу: **„Ура дарагому таварышу Сталіну!“**

**Рая Малая.**

**Ленінград, 13 школа**
**Окцябрскага раёна**

# СЫН КОМУНІСТА

*Апавяданне Г. БОРН*
*Рысункі А. ВОЛКАВА*

Я вярнуўся са школы пазней, чым звычайна. На вуліцах ужо гарэлі ліхтары. Я палажыў сумку з кнігамі, зняў шапку, выцер хустачкай лоб і сеў за стол.

— Што з табою, Курт? Чаму ты сёння такі сумны?

— Ды так, глупства, мама...

— У цябе былі ў школе непрыемнасці?

— Не, нічога такога. Я проста стаміўся.

Бацька ляжыць на ложку—чытае газету. Ён паварачвае галаву і глядзіць на мяне, прыжмурыўшы вочы. Потым устае і хлопае мяне па плячы.

— Дык ты кажаш—глупства? Ну, будзем абедаць.

Маці ідзе на кухню.

— Што, цябе пакрыўдзілі, Курт?—пытае бацька.

— Гэты нягоднік Кюнцэль назваў мяне рабочай свіннёй.

— Ну, а ты?

— Я яго ўдарыў.

— А потым?

— Потым ён паскардзіўся класнаму наглядчыку і той даў мне аплявуху.

Бацька нахмурыўся.

Маці прынесла міску з бульбай і суп. Мы селі за стол. Пасля абеда я дастаў з сумкі кнігі і ўзяўся за ўрокі. Я стараўся не думаць пра школу і аплявуху, але не мог.

Так прайшло гадзіны дзве. Засталося толькі рашыць задачы па арыфметыцы.

Раптам я пачуў моцны стук у дзверы. Маці ўздрыганулася і вышла ў калідор. У гэты час у пакой уварваліся людзі, адзетыя



*У пакой уварваліся людзі, адзетыя ў чорную форму.*

ў чорную форму. Я адразу зразумеў, што Гестапо*.

— Усім стаць у кут!

Людзі ў чорным пачалі вобыск. Яны павыкідалі з шафы і камода бялізну і зімовую вопратку. Распаролі матрацы. Адзін пачаў выстукваць сцены.

Яны шукалі ў нас гадзіны дзве, але нідзе нічога не знайшлі. У мяне ўвесь час моцна білася сэрца. Балела галава. Я нават не мог праглынуць сліны. Я-ж ведаў, што тата комуніст. Не раз ён даваў мне маленькія запіскі, якія я заносіў яго таварышам.

Усё-такі я думаў: калі яны нічога не знайшлі, дык, напэўна, пойдуць на гэты раз. Але вышла не так. Адзін з паліцэйскіх, мусіць, начальнік, схапіў бацьку за плячо:

— Адзявайся і хадзем.

Мама пачала плакаць. Бацька пагладзіў яе па руцэ, потым паглядзеў на мяне і спытаў:

— Магу я развітацца з сынам?

— Толькі хутчэй,—буркнуў паліцэйскі.

Бацька пацалаваў мяне ў шчаку і ледзь чутна шапнуў мне на вуха:

— Папярэдзь Гейнрыха, таго худога...

Потым ён адзеў сваё старое паліто, маці падала яму клумачак з бялізнай. Але паліцэйскі выбіў клумак з яе рук.

Я чуў як з шумам бразнулі дзверы. Маці апусцілася на крэсла і пачала ўсхліпваць. Я хацеў яе супакоіць, падышоў да яе, але не мог вымавіць ні слова. У мяне не варушыліся губы. Мне хацелася кінуцца на пасцель і плакаць.

Раптам я ўспомніў, што сказаў мне бацька ў апошнюю хвіліну. Я павінен папярэдзіць Гейнрыха. Я хутка выходжу з дому і бягу з усяе сілы. Як на бяду, у мяне няма грошай на трамвай.

Задыхаючыся, увесь потны, я ўзыходжу на пяты паверх. Стукаю ў дзверы. Ніхто не адказвае. Стукаю мацней. Ужо збіраюся ісці, але тут дзверы адчыняюцца. На парозе



*— Ты занясеш гэту каробачку на Бангофмштрасе, дом № 15, другі паверх...*

стаіць Гейнрых, захутаны ў коўдру. У яго зусім сіні твар.

— Што здарылася, Курт?

— У нас быў вобыск і забралі бацьку. Ён сказаў мне перадаць вам аб гэтым...

Гейнрых апускаецца на ложак. Ён цяжка дыхае. Ад яго хрыпаў мне робіцца страшна.

— Ты бачыш, Курт, я вельмі хворы. Ледзве дайшоў да дзвярэй. Мне няма чым дыхаць.

Потым ён глядзіць на мяне і пра нешта думае. Устае з пасцелі і, трымаючыся ад-

* Гестапо — фашысцкая тайная паліцыя.

ною рукою за сцяну, падыходзіць да шафы. Адтуль ён дастае маленькую драўляную шкатулку і кажа мне:

— Ты занясеш гэту каробачку на Бангофмштрасе, дом № 15, другі паверх. Там ты знойдзеш Рыхарда Шульцэ і скажаш, што цябе паслаў Оскар. Толькі глядзі, калі што здарыцца, не называй Шульцэ.

Я запіхваю шкатулку ў кішэню,—яна вузкая і доўгая. Выходжу. Але не паспяваю я нават зачыніць за сабою дзверы, як нейчая рука балюча хапае мяне за плячо.

— Ты што тут робіш, маленькі нягоднік?

Я паварачваюся і бачу паліцэйскіх. Аднаго з іх я пазнаю. Ён быў у нас у кватэры.

Потым ён мяне штурхае ў пакой Гейнрыха. Той усхопліваецца з пасцелі, хутаючыся ў коўдру. Паліцэйскія пачынаюць вобыск. Адзін з іх бачыць у мяне ў кішэні каробачку. Выхоплівае, адчыняе.

— Ах, вось яно што! Дзе ты яе ўзяў?

Я не ведаю, што адказаць. Гляджу на Гейнрыха. Той ціха гаворыць:

— Гэта я даў яму каробачку. Хлопчык ні прычым.

Адзін з паліцэйскіх дзіўна глядзіць на мяне і кажа:

— Мы з табой яшчэ пагаворым.

Двое агентаў цягнуць па ўсходках Гейнрыха. Ён цяжка дыхае. Я іду за імі. Адзін з паліцэйскіх моцна трымае мяне за руку. Гэта вельмі балюча У мяне кружыцца галава, і мне страшна.

— Мама асталася адна,—ціха кажу я.

— Нічога. Калі будзеш сябе добра трымаць, цябе хутка выпусцяць.

Потым нас кідаюць у закрыты аўтамабіль. Мы вельмі хутка едзем. Я ўспамінаю, што мне расказваў бацька пра Гестапо. Мяне будуць біць. Няхай робяць, што хочуць,— я не скажу, навошта Гейнрых даў мне каробачку, і не назаву імені Шульцэ.

Машына спыняецца. Мяне і Гейнрыха выцягваюць і некуды вядуць. Вялікі пярэдні пакой, некалькі чалавек са стрэльбамі. Мяне штурхаюць наперад, і мы пачынаем узнімацца па ўсходках.

Я ў ярка асветленым пакоі. За сталом сядзіць тоўсты чалавек з чырвоным тварам. Той, што прывёў мяне, кажа яму:

— Я табе, Карл, вельмі раю заняцца гэтым шчанюком. Мы сёння забралі яго бацьку, а праз гадзіну схапілі яго самога ў другога комуніста. Той яму даў занесці некуды гэтую каробачку.

— Як цябе завуць?

— Курт Лерхе.

— Чаго ты стаіш? Садзіся. Цябе не пакрыўдзілі?

Тоўсты чалавек з чырвоным тварам гаворыць са мною як быццам-бы ласкава. Можа, і сярод іх ёсць не зусім лютыя.

— Што—мама асталася дома? Шкада небараку. Слухай, Курт, ты любіш бацьку?



*Ён хапае мяне за плячо, падымае і кідае на падлогу.*

Я ківаю галавою.

— Так, я ведаю, ён добры чалавек. Ён сам ні прычым. Яго ўцягнуў у гэту справу той хлопец, які часцей за другіх прыходзіў да вас вечарамі. Я забыўся, як яго завуць.

Ён, мабыць, думае—Ганске. Я ледзь не назваў яго прозвішча, але потым успамінаю, як вучыў мяне бацька: ніколі нікому не кажы, хто ў яго бывае.

Паліцэйскі гаворыць далей:

— Так, я забыўся, як яго завуць. Твой бацька толькі што мне яго назваў... Смешна, што я забыўся.

Цяпер дык я ўжо ведаю, што ён маніць... Бацька ніколі не мог гэтага зрабіць.

— А куды ты нёс каробачку? Дахаты?

Я ківаю галавою.

— Ах, як гэта дрэнна. Хіба ты не разумееш, што за гэта арыштуюць тваю матку? Забудзься, што ты мне гэта сказаў. Кажы праўду. Куды табе казаў занесці каробачку гэты здохлы Гейнрых?

— Ён казаў мне кінуць яе ў канал.

— Бачыш, Курт, як ты маніш. Толькі што ты казаў, што хацеў занесці яе дахаты, а потым выяўляецца, што ты збіраўся кінуць у канал. Нядобра. Вельмі нядобра. А ведаеш што? Калі ты скажаш праўду, мы адразу-ж вызвалім бацьку, а можа і Гейнрыха. Каго ты хочаш, каб раней вызвалілі?

Я ясна адчуваю, што гэты чалавек маніць мне. Няхай-бы лепш крычаў. А то гэты ласкавы голас, і пагладжвае па руцэ... Ён не выпусціць ні бацькі, ні Гейнрыха.

— Ну, што, будзеш гаварыць?

Я маўчу.

Раптам тоўсты чалавек усхопліваецца. У яго пад вокам рубец. Яго твар наліваецца крывёю і робіцца страшным. Ён ударае з усяе сілы кулаком па стале.

— Ты доўга будзеш прыкідвацца дурнем, шчанюк?

У мяне пачынаюць дрыжаць калені. Сэрца б'ецца ўсё мацней і мацней.

— Ну, што, будзеш гаварыць праўду, шэльма?

Я сціскаю зубы.

Да мяне нахіляецца чырвоны твар. Я стараюся адсунуцца.

— Дык ты, шчанюк, думаеш, што я з табою буду доўга цацкацца?

Ён хапае мяне за плячо, падымае і кідае на падлогу. Потым я адчуваю, што нешта апякло маю шчаку. Яшчэ адзін удар. У мяне ў руцэ кроў. Але я ўжо нічога больш не баюся і хапаю зубамі руку, абросшую кароткімі рыжымі валасамі...

Што было пасля, я не ведаю. Я прачнуўся ў кутку пакоя і адразу адчуў, што мая куртка прыліпла да цела. Я прасоўваю палец за каўнер. Гэта, аказваецца, не кроў. Яны, відаць, аблілі мяне вадою. Ніколі я не адчуваў сябе такім слабым. Я заплюшчваю вочы і чую:

— Што, гэты вырадак не здох?

— Не, варушыцца.

Я ледзь падымаю павекі і бачу перад сабою незнаёмы твар з маленькімі жоўтымі вочкамі. Паліцэйскі хапае мяне за плячо. Я зноў апынуўся на крэсле.

— Ітак, каму ты хацеў занесці каробку?

Я аблізваю языком перасохшыя губы і адказваю:

— Я яе хацеў выкінуць.

Мне здаецца, што я некуды праальваюся.

У пакой уваходзіць новы чалавек у чорнай форме.

— Што, Карл, ты яшчэ цацкаешся з гэтым шчанюком? А мой госць паспеў ужо акалець. З ім проста была пацеха.

Чалавек падыходзіць да мяне, хапае маю руку сваёй велізарнай лапай і цісне. Я не магу стрымлівацца, спаўзаю на падлогу. Ён цісне яшчэ больш...

Потым мяне заперлі ў нейкі пакой з каменнай падлогай. Я задрамаў, але вельмі хутка

зноў усхапіўся. Лоб у мяне быў пакрыты кроплямі поту. Я не мог адрозніць таго, што са мною здарылася, ад страшнага сну, які мне толькі што прысніўся.

Раніцою мяне зноў прывялі да чалавека з чырвоным тварам. У яго зноў ласкавы голас.

— Ну, Курт, бачу я, што ты сапраўды ні прычым. Можаш ісці дахаты. Вось твая каробка. Рабі з ёю, што хочаш. Бяры гэту паперку, цябе з ёю адгэтуль выпусцяць. Мне вельмі шкада, што я цябе пакрыўдзіў, але ты мяне раззлаваў.

Я не верыў сваім вушам. Цяпер, напэўна, ён мяне зноў ударыць. Але чалавек, ні слова ні кажучы, выводзіць мяне з пакоя. Азіраючыся, я спускаюся па ўсходках. За мною зачыняюцца дзверы. Я на вуліцы.

Спачатку я іду павольна, потым усё хутчэй і хутчэй. Мама адна дома. Яна не спала, вядома, усю ноч.

Не, раней трэба занесці каробачку Шульцэ. Трэба яго папярэдзіць, пакуль не позна. Я паварачваю на бакавую вуліцу. Потым спыняюся. Цяпер мне ўсё зразумела. Яны знарок выпусцілі мяне і аддалі мне каробачку. Яны хочуць паглядзець, куды я пайду. Потым яны арыштуюць Шульцэ. Я адчуваю, што за гэтую ноч я шмат чаму навучыўся.

Што мне рабіць з гэтай каробачкай? Занесці дахаты? Яны зноў зробяць вобыск і арыштуюць маму.

Я пайшоў туды, дзе віднеўся ўзбярэжны канал. Вось і мост. На мосце я трошкі прыцішыў шагі і выпусціў з рук каробачку. Яна з хвіліну паплавала, а потым патанула ў каламутнай вадзе. Я адвярнуўся і ўбачыў на мосце чалавека ў капелюшы з апушчанымі краямі. Ён увесь час ішоў за мною...

Я вельмі стаміўся, хацелася-б дзе-небудзь пасядзець, але трэба спяшацца дамоў,—там чакае мама. Яна, напэўна, увесь час плача.





*АЛЕКСАНДР СЯРГЕЕВІЧ ПУШКІН*

# КОНЬ

### *А. С. ПУШКІН*

Што з табой, мой конь гуллівы,
Што ты жаласна іржэш;
Не трасеш густою грывай,
Звонкіх цугляў не грызеш?
Ці жывеш ты не на волі?
Ці аўса ясі не ўволю?
А ці збрую ганіш ты?
Ці не срэбныя падковы,
Ці чапрак*) накрыт не новы,
Не шаўковы павады?

Конь адказвае журліва:
Я таму аспакайнеў,
Што я чую ў дальніх нівах
Тупат ног і стрэлаў спеў;
Я таму іржу, што ў полі
Ўжо нядоўга мне гуляць,
Жыць у доглядзе на волі,
Ў светлай збруі гарцаваць:
Хутка вораг наш суровы
Маю збрую забярэ,
І блішчастыя падковы
З лёгкіх ног маіх здзярэ.
Вось чаму і стаў я хмуры
Ды засмучаны такі,
Што тваёю белай скурай
Ён накрые мне бакі.

*Пераклад А. Якімовіча.*

*) Чапрак—падсцілка пад сядло.




*Апавяданне* Я. ГЕРАСІМОВІЧА

*Рысункі* В. ЦІХАНОВІЧА

— Хочаш пакатацца на лодцы?—запытаў Юзік у сваёй сястры Касі.

— Хачу, але я збіралася пайсці ў гай нарваць кветак.

— Кветак?—усміхнуўся Юзік.—Ці толькі ў гаі кветкі растуць? На беразе каля затокі больш кветак, чым у гаі.

Кася згадзілася. Праз поўгадзіны дзеці плылі па спакойнай гладзі шырокай рэчкі і любаваліся зялёнымі берагамі. Бліскучыя кусты ракіт і высокія, смуглявыя вольхі схілялі над вадою галлё. На мурожным лузе стаялі волаты-дубы, паміж якіх спаважна пахаджвалі доўганогія буслы. Спакойна і нерухома сядзелі бусліцы ў сваіх велізарных гнёздах у разложыстым галлі старажытных дубоў.

Высока ў паветры лятаў вялікі каршун. Плаўна, без адзінага ўзмаху шырокіх крыл, ён доўга кружыўся ў блакітнай высі і раптам нібы камень упаў у гушчар лазовых кустоў.

Шырокімі ўзмахамі вясла Юзік накіраваў лодку ў затоку. Мінаючы невялікія пясчаныя выспы, ён спыніў лодку каля цяністага зялёнага зарасніку.

Дзеці вышлі на бераг і прывязалі лодку да тоўстага бярозавага пня.

— Ах, колькі-ж тут кветак!—сказала Кася.—Юзік, ты толькі паглядзі: вось незабудачкі, а вось ружовыя пеўнікі, а там... там ліловыя званочкі і белыя пралесачкі...

Захапленню Касі не было канца.

Юзік тымчасам пачаў рэзаць хворост і спускаць з лазы дудачкі-свісцёлкі. Кідаючы на зямлю ахапак зялёнага вецця, ён раптам заўважыў каля лазовага куста на купіне вялікага каршуна. Каршун нешта дзёўб і разрываў сваімі вострымі кіпцюрамі. Побач валялася шэрае пер'е.

Юзік падняў руку, пагражальна крыкнуў і шпурнуў на каршуна абрэзкам невялічкай палкі.

Каршун злосна азірнуўся і ўзняўся ўгору, пакінуўшы сваю ахвяру.

— Кася, хадзі сюды, тут нешта ёсць,— закрычаў Юзік. Дзеці з вялікай цікавасцю падбеглі і ўбачылі ў траве шмат пер'я ў крыві і падзёртую шэрую качку. Кася ахнула ад нечаканасці.

— Гэта-ж каршун яе задушыў,—сказаў усхваляваны Юзік.

— Каб ён здох!—абурылася Кася,—ці мала ён птушак за лета передушыць... Цікава, дзе ён злавіў яе, можа тут?..

Кася расхінула вецце густога лазовага куста і ўбачыла качынае гняздо. У гняздзе ляжалі толькі шалупіны ад яечак.

— Гэта яе гняздо, яна тут вывела качанят,—парашылі дзеці,—але дзе-ж яны падзеліся?

Кася пачала старанна шукаць іх. Уважліва агледзела ўвесь куст, але дарэмна.

Расчараваная пошукамі, яна ўжо варочалася назад. Праходзячы каля тарфяное ямы, яна заўважыла, што там на дне нешта заварушылася. Спачатку Кася падумала, што гэта жаба. Але рухі яе былі зусім непадобны да жабіных, бо жабы звычайна скачуць. Яна нахілілася бліжэй і ўбачыла малюсенькае качанё. Кася падскочыла ад радасці, запляскала ў ладкі і паклікала брата.

Перапалоханае гаворкаю і вясёлым смехам дзяцей, качанё кульнулася ўніз і схавалася пад вадою. Але вады ў яме было зусім мала, і яно зноў выплыла наверх.

Дзеці пачалі раіцца, што з ім рабіць. Юзік прапанаваў дастаць яго з ямы і пусціць у затоку, але Кася не згадзілася.

— Качанё зусім маленькае, яно загіне ў гэтым балоце,—сказала яна,—лепш забярэм яго дадому і будзем даглядаць самі.

Юзік не супярэчыў. Ён злавіў качанё і пашоў адвязваць лодку.

* *
*

Качанё хутка прывыкла да дзяцей. Дзеці часта кармілі яго і любілі браць на рукі. Смачныя кавалачкі хлеба і мяса пападалі ў першую чаргу качаняці. Асабліва любіла карміць яго Кася. Яна брала кавалачак хлеба ці бліна і, выстаўляючы руку, пяшчотна клікала:

— Вуця, вуцечка мая.

Качанё было пражорлівае і хутка расло. Да канца лета яно вырасла ў прыгожую шэрую качачку. За гэты час качачка пасябравала з куранятамі, хаця часта і крыўдзіла іх каля карытца з ядой. Смелая і дзёрзкая, яна ўступала ў бойку нават са старымі курамі і амаль заўсёды перамагала іх у бойцы за яду.

Перавага качачкі над курамі была ў тым, што яна ўмела добра лятаць і плаваць. Яна лятала спачатку толькі на сажалку каля вялікае калгаснае сядзібы. Там яна купалася





*Каршун злосна азірнуўся і ўзняўся ўгору, пакінуўшы сваю ахвяру.*

разам са свойскімі качкамі, але ніколі не сябравала з імі. Тлустыя, непаваротныя качкі з жахам кідаліся ў розныя бакі сажалкі, калі качачка з вышыні раптоўна апускалася каля іх у ваду. Качачка не звяртала на іх увагі, а яны трывожна пазіралі на смелую дзікарку, палахліва кракалі і трапяталі тоўстымі хвастамі.

Праз нейкі час качачка пачала лятаць у больш далёкія і зацішныя месцы. Высока ўзняўшыся над хатамі і палямі, яна імкліва ляцела на возера або ў імшары. Але самым любімым месцам яе была ціхая затока. Яна вольна плавала там сярод зялёнага аеру і чароту, ловячы маленькіх рыбак і жабянят.

У ціхім і глухім кутку затокі качачка першы раз спаткалася з дзікімі маладымі качкамі. Гэта спатканне незвычайна здзівіла яе. Качкі плылі супроць адзінокай качачкі цэлай чарадою. Яна закракала ад нечаканасці. Таксама закракала ўся чарада маладых качак і спынілася, закруціўшыся на месцы. Качачка спаважна і нерашуча паплыла далей.

У гэты момант недзе зусім блізка пачуўся стрэл. Качкі раптоўна кінуліся ў густы зялёны зараснік і зніклі, пакідаючы ўсхваляваную пасля сябе ваду.

Качачка асталася адна. Яна не спалохалася стрэлу паляўнічага і яшчэ доўга плавала ў ціхіх куточках затокі.

Зусім позна вярнулася качачка ў гэты дзень дадому, выклікаючы гэтым клопат і трывогу дзяцей.

* * *

Кожны дзень з поўначы пачалі дзьмуць зыркія вятры. Цёмныя, цяжкія хмары нізка звісалі над апусцелымі палямі і пажоўклымі сенажацямі.

Дзесьці гудзела малатарня. Яе заглушаў буйны вецер, што злосна круціўся ў завірусе, зрываючы з дрэў пажоўклыя лісты.

Доўгімі ключамі, з жалобным, нібы развітальным крыкам, адляталі на поўдзень жураўлі.

Неспакойна шумеў цёмны сасновы лес. На глухіх берагах затокі хіліўся да вады і зябка шалясцеў сухі чарот.

Надыходзіла халодная, сумная восень.

Качачка за гэты час вырасла і стала ўжо дарослай качкай. Яна, як і раней, кожны дзень наведвала затоку. Але ўсё часцей і часцей яна пазнілася дадому.

Аднойчы калгасны пастух бачыў, што яна далучылася да чарады дзікіх качак. Качкі аселі ў возера і зніклі ў густым чароце.

Два дні ўжо не начавала дома качка. Дзеці ў трывозе раіліся, што рабіць, дзе шукаць яе. Юзік мяркуе, што яна паляцела ў вырай. Кася не хоча з гэтым згадзіцца. Пачынаюцца спрэчкі. Юзік упікае Касю ў тым, што яна не згадзілася падрэзаць качачцы крыллі, як раіў бацька. Кася пакрыўдзілася. Яна з дакорам сцвярджае, што качачка з падрэзанымі крыллямі была-б зусім брыдкай, непрыгожай.

Мінуў яшчэ адзін дзень, а качка не прылятала. Тады дзеці канчаткова парашылі ісці шукаць яе.

Доўга хадзілі яны па беразе возера. Сустракалі там чароды качак, якія яшчэ здалёку ўзнімаліся і хутка знікалі за кустамі алешніку.

Пасля доўгіх пошукаў дзеці ўпэўніліся, што іхняй качкі на возеры няма. Тады яны пайшлі прама, праз лазовыя кусты, у затоку. Па дарозе сустрэлі некалькі паляўнічых.

На беразе затокі дзеці ўважліва прыглядаліся ва ўсе куточкі. Каля павароту яны ўбачылі, што насустрач ім ідзе незнаёмы чалавек. Гэта быў паляўнічы—брыгадзір з

калгаса „Чырвоная зорка“. На яго плячы вісела стрэльба.

Кася, якая ўвесь час не зводзіла вачэй з нахіленых над вадою зараснікаў, раптам спынілася. У гэты час спыніўся і паляўнічы, беручы ў рукі стрэльбу.

Паляўнічы і Кася амаль адначасова ўбачылі качку. Яна спакойна плавала між зялёнага аеру.

Кася схапіла Юзіка за руку і, паказваючы пальцам, усхвалявана закрычала:

— Вунь яна, вунь наша качка. Хутчэй бяжэм!

Паляўнічы нацэліўся.

— Дзядзька! Дзядзечка, не страляйце! Гэта-ж наша качка!

Паляўнічы са здзіўленнем азірнуўся і сказаў:

— Не парашкаджайце. Вы памыліліся Гэта не свойская качка, а дзікая. —Пры гэтым ён зноў нацэліўся. Юзік не вытрымаў.

Ён падбег да паляўнічага і схапіў яго за руку.

Але ўжо было позна. Пачуўся стрэл. Шэры сабака Лыска кінуўся ў зараснік і праз хвіліну прынёс паляўнічаму мёртвую качку.






*Казка П. ШАСТАКОВА*

*Рысункі К. ГЕДДЫ*

За шырокімі палямі,
За зялёнымі лугамі
Залатым вясеннім раннем
Лес шумеў сваім убраннем.

А ў тым лесе, у бары,
Пелі песні песняры:
Пеў прыгожа салавейка,
Заліваўся верабейка.
У густым галлі бярозы
Пелі бойкія карозы.

А зязюлька на суку
Паўтарала ўсё—ку-ку...
Гучна пеў птушыны хор.
Слухаў песню стары бор.

Песню слухалі ў бары
Усе лясныя жыхары:
Слухаў воўк—драпежнік шэры—
І на птушак зубы шчэрыў.

Слухала ліса з нары,
Як спяваюць песняры...
Кожны думку сваю меў:
„Эх, калі-б злавіў ды з'еў!"

Весялей за ўсіх, заўзяцей
Быў каваль птушыны—дзяцел.
Ён высока ўзлез на сук—
Тук, тук, тук...
Стук, стук, стук...

Трапіў дзятлу ў дзюбку жук—
Стук, стук, стук...
Чарвячкоў з дзесятак штук—
Стук, стук, стук...
Не схаваўся і павук—
Стук, стук, стук...
Што ні трапіцца—каюк!—
Стук, стук, стук,
Стук, стук, стук...

* * *

Лета цёплае прышло,
Радасць, шчасце прывяло.
Расквітнелі пышна кветкі,
Засвісцелі ў гнёздах дзеткі.

Рады птушкі дзеткам, сонцу
І пяюць, пяюць бясконца...

Паляцеў па лесе дзяцел
Ў госці птушак запрашаці:
— Эй, злятайцеся, суседзі,
Будзе шмат у дзятла снедзі.

Сёння ў нас з дзятліхай свята—
Дзетак вывелі багата:
Дзве дачкі ды тры сыны,
Усе здаровенькі яны.
Добра дзятлу—дзетак многа,
Бацьку—радасць і падмога!

Прыляцеў да дзятла дрозд—
Шэра світка, чорны хвост,
Ля гнязда сеў на сучок—
Чок, чок, чок...

Дроздзік—добры мужычок,
Яму—лепшы чарвячок...
— Чок, чок, чок...
За драздом зязюлька ўслед
Прыляцела на абед—
Вышэй села на суку,
Пачала—ку-ку, ку-ку!
Лічыць дзятлавы гады...
Не наклікала-б бяды!
Прыляцелі дзве цяцёркі—
—Дзяцел, дай нам горкай, горкай,
Дай, дай, дай!..
Ну, а дзяцел ім... жучкоў,
Павучкоў ды чарвячкоў...
Ай, ай, ай!
Не здаволены цяцёркі,
Што не даў ім дзяцел горкай—
Піць, піць, піць!
Пагасціць не захацелі,
Узняліся, паляцелі—
Фу-ррр, фіць, фіць...
Ну, а дзяцел рад шпакам—
Сваім блізкім сваякам.
Хваляць дзятлаў стол шпакі:
— Ах, як смачны чарвякі!
— Што за смачныя жучкі!
— Ай-ай-ай, абед які!





Потым шумнаю сямейкай
Прыляцелі верабейкі...
Прынязлі з сабой зярнятак,
Прывіталі дзятлянятак:
— Кожны хай расце вялік!
Чык, чы-рык!
Чык, чы-рык!
Шмат суседзяў і суседак
Наляцела напаследак.
Дружна дзятла ўсе віталі,
Ўсе дзятліху віншавалі,
Цалавалі дзетак-крошак,
Ў рот ім клалі мушак, мошак.
Пілі, елі,
Пілі, елі,
Пелі, пелі, пелі, пелі
На асіне і на слі.
Ад тых песень ды ад крыкаў,
Ад птушынае музыкі,
Аж стагнаў зялёны гай,—
Так грымеў птушыны грай.

* * *

А ў той час
Ды пад асінай,
У пячэры
У лісінай,
Ліска костку даядала,
Разважала ды гадала:
— Эх, каб курачку ці гуску,
Ці дзятлёнка на закуску!
Хоць-бы мышка была ў хаце!..
Я прыпомню табе, дзяцел,
І дзяцей маіх галодных
І гасцей тваіх нягодных...
Не зазваў суседку ў госці,
Беражы-ж цяпер ты косці!
Дзятлянят я палаўлю,
Лісянятак накармлю...

*(Канец будзе.)*

# ІЛЬВІНЫ ВУС

В. ЧАПЛІНА.

*Аўтар гэтага апавядання В. Чапліна доўгі час працавала ў Маскоўскім заапарку. Яна добра вывучыла жыццё звяроў. Кінулі—гэта прыручаны ёю львёнак. Ён жыў і гадаваўся ў Чаплінай на кватэры. З Кінулі адбылося нямала цікавых прыгод. Аднаго разу да Чаплінай у незакрытую кватэру залез злодзей і ледзь не памёр ад страху, калі ўбачыў перад сабою льва. Кінулі ляглаў дзвярах і трымала злодзея, пакуль не вярнулася гаспадыня кватэры. Асабліва здружыўся з Кінулі маленькі сын Чаплінай Вася. Зараз Кінулі вырасла вялікай ільвіцай і яе аддалі назад у заапарк.*

Кажуць, што ільвіныя вусы прыносяць шчасце. Ва ўсякім выпадку так пішуць многія падарожнікі па Афрыцы. Пішуць, што забіваючы ільва, мясцовыя жыхары адразаюць вусы ў звера і носяць іх як талісман * на грудзях. Такі талісман нібы робіць чалавека храбрым, як леў, непераможным, бароніць ад усіх няшчасцяў. Вось чаму многія мае знаёмыя заглядваліся на пушыстыя прыгожыя



вусы Кінулі,—марылі іх набыць. Дзіва што! Як-жа тут не марыць? Хто гэта не захоча быць храбрым.

Асабліва захацелася набыць вусы таварышам Васі. Гэта-ж і ў Афрыку ехаць не трэба! Ці-ж доўга ўзяць ножніцы і настрыгчы іх у Кінулі? Але стрыгчы ніхто не адважваўся. Кінулі хоць і ручная, а ўсё-такі леў. Хто ведае, як яна паглядзіць на такую стрыжку. І вось прасілі ў Васі, прасілі ў мяне.

— Ну, хоць адзін валасок адрэжце,—угаварвалі нас жадаючыя стаць храбрацамі.—Хоць адзін, адзінюткі валасок.

Рэзаць мы, вядома, не згаджаліся, але Вася абяцаў, што калі валасы будуць выпадаць, ён іх пазбірае. На ільвіны вус устанавілася сапраўдная чарга, і Вася ад гэтага дня пачаў узірацца на падлогу. Кожную раніцу, раней чым пайсці на работу, ён уважліва аглядаў усе куткі, шчыліны. Лазіў пад сталом, пад крэсламі. Адным словам усюды, дзе мог быць выпаўшы з морды Кінулі валасок. І вось аднойчы ён яго знайшоў. Волас ляжаў чорны, пругкі пасярэдзіне пакоя.

Вася асцярожна яго падняў і схаваў у запісную кніжку. Назаўтра ён знайшоў яшчэ некалькі валасоў. Усе дзівіліся з ільвіных вусоў і прасілі хоцьбы пазычыць на пэўны час, але Вася не згаджаўся. Ён сумленна раздаваў вусы па чарзе.

У гэты-ж дзень, гуляючы вечарам з Кінулі, Вася знайшоў яшчэ волас, прыгледзеўся і ўбачыў, што імі ўсыпана ўся падлога. Такая колькасць яго ўжо здзівіла. Зірнуў на Кінулі. Спадзяваўся яе ўбачыць без вусоў, але вусы красаваліся на месцы і, які жах, зусім белыя, а тыя, якія ён з такімі цяжкасцямі збіраў, былі чорныя. Справа была простая. Кінулі забаўлялася шчоткай і вырывала з яе валасы. А Вася думаў, што гэта вусы, збіраў іх і раздаваў.

Між іншым, валасы са шчоткі памагалі таксама, і ў тых нямногіх знаёмых, якія іх набылі, з'явілася ільвіная храбрасць.



* Талісман—прадмет, які, па думцы адсталых несвядомых людзей, прыносіць шчасце.

# ДРЭВЫ-ВЕЛІКАНЫ

## ЭЎКАЛІПТ

Многія з вас, рэбята, бываючы ў лесе, стараліся адшукаць найвышэйшае дрэва. І ўсё-ж наўрад ці знаходзілі вы больш за 35 метраў вышынёю сасну або елку. А на свеце ёсць такое дрэва—э ў к а л і п т,—што наша найвышэйшая елка выглядае ў параўнанні з ім невялікім атожылкам. Паглядзіце на рысунак і вы пераканаецеся самі.

Радзіма эўкаліпта—гарачая Аўстралія. У нас ён сустракаецца на Каўказе, у Сярэдняй Азіі і на паўднёвым беразе Крыма.

Растуць эўкаліпты надзвычайна хутка—па дватры метры за год, і вырастаюць некаторыя з іх да 155 метраў вышыні. Пяць высокіх елак трэба паставіць адна на адну, каб атрымалася такое дрэва.

Ствол у эўкаліпта выносны, без сукоў, як у нашай баравой сасны. Толькі ў самай верхавінцы ёсць галлё з лісцямі. Лісце ў аднаго і таго-ж дрэва неаднолькавыя: на старых эўкаліптах цёмназялёнага колеру, вузкія і крывыя, як шаблі, а на маладых дрэўцах—шырокія і светлашызыя; да сонца лісты паварачваюцца рубам і амаль не даюць ценю. А насенне ў гэтага велізарнага дрэва да таго маленькае, што і паверыць трудна. Вы ўсе ведаеце звычайныя арэхі, дык вось у адным такім арэху можа змясціцца каля сотні зярнят эўкаліпта.



*Эўкаліпты, бяроза і елкі (справа).*

Эўкаліпт прыносіць чалавеку вялікую карысць: з яго здабываюць масла для лячэння, сокі для прамысловасці, а з некаторых відаў — каучук. Дрэва эўкаліпта цвёрдае, нібы жалезнае, і ўжываецца пры пабудове караблёў, мастоў, на тэлеграфныя слупы. Акрамя таго, выпарваючы сваімі карэннямі шмат вады, эўкаліпт дапамагае знішчаць малярыйных камароў, якія водзяцца ў балотах і разносяць малярыю (трасцу).

## СЕКВОЙЯ

**Гэта было незвычайнае дзіва: на круглай дошцы, адпілаванай упоперак з дрэва, стаяла піяніна, сядзела чатыры музыкі і шаснаццаць пар маглі яшчэ танцаваць. Людзі ўзіраліся ў дошку і не верылі, каб гэта быў суцэльны кавалак. Тады гаспадар дошкі пасылаў людзей у другі бок:**

**— Ідзіце паглядзіце, што на той дошцы робіцца.**

**А на другой дошцы вось што было: стаяла хата, а ў ёй была друкарня, дзе друкаваўся „Веснік дрэва-велікана“. Усе, хто наведваў выстаўку, нарасхват бралі лістоўку і з цікавасцю чыталі пра вечнажывучую секвойю, ці як яе інакшай называлі „мамантава дрэва“.**

Расце секвойя пераважна ў Каліфорніі (Амерыка), а таксама ў нашым Крыме. Яна менш баіцца холаду, чым эўкаліпт, і лёгка пераносіць невялікія марозы. Гэта вельмі каштоўнае і дарагое дрэва—яно лёгкае на вагу, не надта цвёрдае і, самае галоўнае, не загнівае. Ужываецца найбольш для абшыўкі караблёў.

Вечнажывучым дрэва называюць таму, што некаторым з іх каля 6 тысяч гадоў. Колькі пакаленняў людзей бачылі гэтыя дрэвы! Праўда, цяпер такіх дрэў засталося нямнога, і ўрад забараніў іх знішчаць.

У вышыню некаторыя секвойі дасягаюць 150 метраў, а ў абхват—46 метраў. Паспрабуйце ўзяцца за рукі, каб вышаў круг 46 метраў. Наўрад ці змог-бы адзін клас любой школы абняць адно дрэва. Дык і не дзіва, што на пні такога дрэва-велікана можна наладжваць танцы.



*Маладое (40-гадовае) дрэва секвойі.*

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ЛІСТАПАД 1936 г. № 11

ЦАНА 30 кап.



# ВЫНАХОДЛІВЫЯ МЯДЗВЕДЗІ











Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА. Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна 20000 экз. Зак. № 1198. Галоўлітбел № 5426.